*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 23(408)** **9 ЧЭРВЕНЯ 1999 г.**

## Беларусь. Жалоба і смутак па нявінных ахвярах 30 траўня.



Ніл Гілевіч

**Смерць на Нямізе**

У краіне, дзе волю дыктуюць
Фантом і абсурд,
Недарэчная смерць на Нямізе –
Страшная з найстрашных.
Ачмурэлы ад піва
Трохтысячны "рыцараў" гурт
Затаптаў, як капыццем,
Паўсотні дзяўчатак няшчасных.

Так ад бомбаў, ад куль і снарадаў
Мужчыны не пруць,
Як ад летняга ліўня з градзінкамі
"Рыцары" пёрлі –
Па касцях, па вачах,
І па сэрцы тваім, Беларусь,
І па крыку – жахлівым, апошнім,
Застрэлым у горле...

Гэта сталася ўвечар на Тройцу,
Між храмаў якраз –
Пад заходняй сцяной аднаго,
Пад усходняй – другога.
І выходзіць, што п'яны,
Кашчунны, дурны свістапляс
Угнявіў і дзядоў на тым свеце,
І Духа Святога.

Ну кажыце, кажыце, айцы,
Што тут Бог ні пры чым,
Што не Боская гэта адплата
За грэх святатацтва.
Проста збег нечаканых абставін,
Прыгод і прычын.
Вінаватых няма –
Не навінна было гэта стацца...

Будуць модлы гучаць,
Будуць бомкаць журбота званы,
Будуць слёзы буяць,
Будуць кветкі цвісці на магілах.
Ацалелым жывым
Будуць сніцца кашмарныя сны.
Будзе доўжыцца суджаны лёс –
Лёс у Бога нямілых.
1 чэрвеня 1999 г.

## Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ

6 траўня ў Горадні прайшла абласная канферэнцыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Канферэнцыя ў асноўным вырашала арганізацыйныя пытанні. Па просьбе Паўла Сцяцко, які перанёс ужо два інфаркты, ён быў вызвалены ад абавязкаў старшыні Гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ. Новым старшынём абраны Алесь Міснюкевіч, намеснік дырэктара навучальнага цэнтра "Гроднаэнерга". Абрана новая абласная рада ў складзе: Тамара Прадзед-намеснік старшыні, Павел Сцяцко-намеснік старшыні, Станіслаў Суднік-намеснік старшыні, Аляксей Пяткевіч, Алесь Мілінкевіч, Язэп Палубятка, Лілея Сазанавец, Аляўціна Пыркова, Фаіна Гнябко, Валянціна Сямянека, Мікола Грышан, Алесь Самец - сябры рады. На канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі васьмі раёнаў вобласці. Таму канферэнцыя надала радзе права каапатаваць ў свой склад прадстаўнікоў ад астатніх арганізацый ТБМ . Старшыні гарадскіх і раённых арганізацый вобласці могуць звязацца са старшынём абласной арганізацыі па тэлефонах у Горадні: 47-12-17 сл., 31-53-78 х.

## Увага

15 чэрвеня а 17-й гадзіне ў сядзібу ТБМ на сход запрашаюцца кіраўнікі ўсіх раённых радаў ТБМ г. Менска

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны стварыла сваю старонку ў Internet. Яе адрас http://tbm.org.by. На старонцы можна знайсці звесткі пра структуру і кіраўнічыя органы арганізацыі, тэлефоны і адрасы для сувязі з рэгіянальнымі арганізацыямі Таварыства, даведацца пра задачы і мэты арганізацыі. Тут жа прадстаўлены маніторынг інфармацыі па пытаннях лінгвістычных правоў і беларускай мовы.

Вы можаце таксама адасласць свае пытанні, прапановы і заўвагі на адрас ТБМ і стваральнікаў старонкі. Спадзяемся, што вас зацікавіць наша старонка і з удзячнасцю чакаем водгукаў.

Сакратарыят ТБМ.

Як мы паведамлялі у "НС" за 12 траўня маладзёвая арганізацыя ТБМ працуе над выпускам песенніка, у якіх будуць змешчаны добрыя беларускія песні пад гітару, застольныя, народныя і іншыя, разам з нотамі акордамі і г.д. Але справа гэтая не зусім блізкай перспектывы. БТ і радыё, FM-станцыі актыўна прапагандуюць рускія песні, як яны называюць – "отечественные". Таму ўжо зараз трэба працаваць каб беларусы не спявалі пры нагодзе "Чё те надо...", а ведалі і вучыліся спяваць свае лепшае. Вось і вырашылі мы у "НС" зрабіць рубрыку ў якой у кожным нумары будзе размешчана добрая беларуская песня. Даваць нам свае лепшыя песні пагадзіліся беларускія барды з якімі мы размаўлялі. У прыватнасці першым адзін з сваіх твораў даў паэт і бард Эдуард Акулін, з якім у гэтым накірунку мы спадзяемся супрацоўнічаць.

Яшчэ раз нагадваем, мы прапануем дасылаць нам у сядзібу Таварыства на адрас 220005 г.Менск, вул.Румянцава, 13 файныя беларускія песні як напісана вышэй. За лепшыя дасланыя іх будуць узнагароджаны прызамі ТБМ.

*Алесь Гурыновіч.*

## Заява Сакратарыята ТБМ

Сакратарыят ТБМ выступае супраць пераследу Саюза палякаў Беларусі і яго старшыні Тадэвуша Гавіна беларускімі ўладамі і заяўляе пра сваю падтрымку палякаў Беларусі ў іх змаганне за правы вучыцца на роднай мове.

Прынята
На пасяджэнні Сакратарыята
6.04.1999г.

У суботу 29 траўня адбыўся з'езд ТБШ. Ад імя ТБМ выступіў Мікола Лавіцкі – першы намеснік.

У апошніх двух нумарах газета "Наша слова" шмат увагі ўдзяляла менскай школе № 191. Сёння Сакратарыят ТБМ і рэдакцыя з глыбокім смуткам паведамляюць, што сярод загінулых 30 траўня на Нямізе аказаліся тры вучаніцы гэтай школы. Мы выказваем шчырыя спачуванні родным і блізкім гэтых вучаніц, а таксама ўсіх загінулых і пацярпелых у тым пекле.

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

У 1991-1994 гадах зацікаўленнасць у адраджэнні нацыянальнай школы, павага да роднай мовы спрыяла пашырэнню класаў з беларускай мовай навучання. Палітыка прэзідэнта А.Лукашэнкі, згода на маўклівасць Міністэрства асветы руйнуюць плён працы мноства людзей.

**Каментар "Навінаў" 19 траўня 1999 г.**

*Нават у гады "застойнага сацыялізму" усе раённыя газеты Міншчыны выходзілі на беларускай мове...*

*Пасля ўвядзення ў 1995 годзе двухмоўя некаторыя рэдактары раённых газет пачалі спакваля, раўняючыся на сваю "вертыкаль", што ўзрадавалася наданню мове чужой краіны статуса дзяржаўнай, праціскаць на старонкі рускамоўныя артыкулы. Хто больш, хто менш, ды і рэспубліканскія газеты падавалі ў гэтым прыклад. Але паступова сям-там беларуская мова стала адціскацца на задворкі, пачалі выходзіць газеты, дзе нацыянальнымі па форме заставаліся толькі іх назвы ды прозвішча рэдактараў на апошняй старонцы, знізу. А родная мова – толькі ў загалоўках.*

***Народная воля 13.05.1999г.***

Адродзім нацыянальную культуру, свядомасць, родную мову беларусаў і ўсіх народаў, што жывуць у нашай краіне.

**Слова да беларускага народа нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта "Беларусь – 2000 гадоў" .**
**Народная воля. 28.05.1999г.**

*Галоўнае ж асаблівасць нашай культуры часоў ВКЛ – яе выразны нацыянальны накірунак развіцця. Яна будавалася на беларускай мове, што была афіцыйнай мовай дзяржавы.*

*Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасці*
***Народная воля. 27.05.1999г.***

Не трэба адчаю, што роднае слова зараз у гаротным стане. У яго магутны "запас сіл". Колькі з ім не змагаліся, колькі не вынішчалі — а яно ўсё жыве. Бо мова наша надзвычай багатая і прыгожая, адна з самых распаўсюджаных і мілагучных славянскіх моў. Так лічыў Адам Міцкевіч, а ён пагадзіцеся, ў гэтым "крыху" разбіраўся...

**В.Бойка**
**Народная воля 11.05.99г.**

**Заява Сакратарыята ТБМ.**

## Захаваем праспект Францішка Скарыны ў цэнтры нашай старадаўняй сталіцы

Прэзідэнт Беларусі ў чарговай прамове выказаў прапанову перайменаваць галоўны праспект сталіцы нашай дзяржавы, тым самым зрабіўшы спробу прыцьміць светлую памяць беларускага асветніка-першадрукара.

Сакратарыят ТБМ нагадвае, што асноўная вуліца нашага горада атрымала сваю назву ў гонар 500-гадовага юбілею Францішка Скарыны, што ўсялякія спробы скасаваць з геаграфічнай сталіцы імя аўтара першай беларускай Біблії з'яўляюцца чарговым наступам на асяродкі Беларушчыны.

Мы заклікаем усіх свядомых грамадзян Беларусі выступіць у абарону назвы праспекта, якая ўмацоўвае міжнародную славу Беларусі.

**Сакратарыят ТБМ.**

**Севастопальскае таварыства беларусаў "Бацькаўшчына" імя Максіма Багдановіча заяўляе аб недапусцімасці пераіменаваць у Менску праспект імя Францішка Скарыны**

№ 23(408) 9 ЧЭРВЕНЯ 1999 г. наша СЛОВА

Яўген Лаўрэль

# Уступка не стрымлівае жаданне

Мала хто са свядомых беларусаў спадзяваўся на тое, што пасля рэферэндуму 1995 года і прыняцця "палатачнікамі" новага Закона аб мовах, які надаў расейскай мове статус другой дзяржаўнай, абедзве мовы будуць функцыяваць як раўнапраўныя. Зразумела, што не з гэтай мэтай задумваўся рэферэндум. Але ўсё ж не верылася, што так нахабна, за такі кароткі час мову карэннага насельніцтва выкінуць з усіх сфераў жыцця ў незалежнай дзяржаве. На ёй больш не працуюць дзяржаўныя ўстановы, не вядзецца справаздача, на ёй нельга набыць прафесію, на ёй практычна не працуе агульнаадукацыйная сярэдняя школа, нават яе пачатковае звяно. Ох, ужо гэтая звычка – мяркаваць пра іншых, сыходзячы з уласных маральных прынцыпаў. Ну якая, скажыце, можа быць мараль у тых, хто замахваўся на святая святых – на свабоду народа (хай, нават, і не свайго) і незалежнасць дзяржавы (хай, нават, і не сваёй). Зрэшты, уступка, як гаворыць усходняя мудрасць, ніколі не стрымлівае жаданне. А яно ў акупацыйнай улады вядомае – поўная русіфікацыя беларусаў. І як мага хутчэй, пакуль гэтыя пакутнікі не ачомаліся. Для дасягнення вялікай мэты чырвоныя шавіністы, як і карычневыя (не выпадкова ж яны і свастыку на рукавах носяць) у сродках не пераборлівыя. Не абцяжарваючы сябе мараллю. Яны ўзялі на ўзбраенне найбольш эфектыўны, даўно апрабаваны сродак – хлусню. Чаго толькі не плялі пра беларускую мову. Яна грубая, і не развітая, на ёй і думку сур'ёзна нельга выказаць. Яна ўвогуле не самастойная, а ўсяго сапсаваны варыянт расейскай мовы. І таму без расейскай беларусам ніяк не абысціся. А вось украінцы, прыбалты абслугоўваюцца сваімі мовамі і жывуць лепш, чым мы. Пры гэтым логікай контраргументаў вялікадзяржаўнікаў-інтэгратараў не возьмеш. Яны чуюць толькі тое, што хочуць чуць. Калі працэс беларусізацыі набраў абароты і беларускамоўных школ стала больш, чым расейскамоўных, яны, не зважаючы ні на пратэсты грамадскасці, ні на вынікі навуковых доследаў, дамагліся, каб іх мова вывучалася з першага класа, паралельна з беларускай. Цяпер жа, калі колькасць беларускамоўных школ наблізілася да нуля, патрабуюць (зноў жа не зважаючы ні на што, нават на тое, што беларуская мова яшчэ мае юрыдычны статус дзяржаўнай мовы), каб мова карэннага насельніцтва вывучалася калі не факультатыўна, то і не з першага класа, а значна пазней, бо паралельнае засваенне адмоўна ўплывае на культуру маўлення вучняў. Уступка, як бачым не стрымлівае жаданне.

Сама пастаноўка пытання аб роўным статусе роднай і няроднай моваў у монаэтнічнай дзяржаве і ўсякія разважанні на гэты конт – ні што іншае, як звычайная дэмагогія.

Беларуская мова – гэта не толькі дзяржаўная мова, але і нацыянальная мова карэннага народа, Як родная яна забяспечвае першапачатковую сацыялізацыю асобы, далучае дзіця да нацыянальнай этыкі, народных звычаяў, абрадаў, быту, гісторыі, фальклёру. Таму мове карэннага народа, нават пры яго колькаснай меншасці, надаецца выключнае становішча. Беларусаў жа, дзякуй Богу, на гэтай зямлі яшчэ абсалютная большасць. Таму ў любых варунках школа, тым больш яе пачатковае звяно, павінна працаваць на роднай мове. На жаль, гэта відавочная ісціна сёння ігнаруецца. Затое з якой помпай гаворыцца пра рэфармаванне нацыянальнай сістэмы адукацыі! Якое рэфармаванне, калі колькасць вучняў у беларускамоўных школах зменшылася да некалькіх працэнтаў. Ці можа пад нацыянальнай школай падразумявацца любая школа, якая знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Тады трэба і казаць – рэфармаванне школьнай сістэмы адукацыі. Бо нацыянальная школа – гэта тая, якая працуе на роднай мове, якая стварае ўмовы для засваення маладым пакаленнем маральна-этычнага, эстэтычнага, гістарычнага і культурнага досведу свайго народа, якая выхоўвае нацыянальна свядомых грамадзян, здольных прымнажаць матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці свайго народа, свята абараняць незалежнасць сваёй беларускай дзяржавы, падымаць яе аўтарытэт на міжнароднай арэне. Дык ці шмат у нас такіх школ? Мы толькі-толькі пачалі былі ствараць сваю нацыянальную сістэму адукацыі, а сёння ўжо даём задні ход. І хутка адкоцімся зноў да школы сямідзесятых гадоў, калі ў гарадах нават па форме не было нацыянальных школ (па змесце пры камуністычным рэжыме і быць не магло), а беларуская мова вывучалася факультатыўна. Вось табе і не паўтараецца гісторыя. У Беларусі ўсё магчыма! Тады "злівалі" мовы, цяпер "зліваем" дзяржавы. А сутнасць адна. І лозунг той самы – брацтва, славянаханне аж да скону, праўда, чамусьці малодшага з братоў, хаця па біялагічным законе першым павінен паміраць старэйшы. Ды тут дзейнічае іншы закон. Закон джунгляў – мацнейшы паглынае слабейшага.

Звернемся да расейскамоўнай школы ў Беларусі. Ці стварае яна беларусам умовы для авалодання роднай мовай?

Разгледзім так званы "Базісны вучэбны план" агульнаадукацыйнай школы з 12-гадовым тэрмінам навучання, які існуе як афіцыйны). У ім на беларускую мову ў нулявым класе гадзін няма зусім, у той час як на расейскую – 6 гадзін. Дзеткі, якія прыйшлі ў школу з беларускамоўных садкоў, цэлы год не будуць чуць роднага слова! Пайсці ж у беларускамоўную школу яны не могуць, бо такіх школ проста няма (напрыклад, у Савецкім раёне сталіцы). Далей: у I – III класах беларускую мову вывучаюць 3 гадзіны ў тыдзень, расейскую – 7. У цэлым жа на расейскую мову з 0 па 11 класы планам адведзена 45 гадзін на тыдзень, а на беларускую (а яна ж для большасці родная!) – 24 гадзіны. Амаль удвая меней. А трэба было б наадварот, бо ўсе дысцыпліны ў гэтых школах таксама выкладаюцца на расейскай мове. Па-расейску праводзяцца ўсе пазаўрочныя і пазашкольныя мерапрыемствы. Ды яшчэ расейскае тэлебачанне.

Разам са змяншэннем класаў, што вучыліся па-беларуску, змянілася колькасць гадзін беларускай мовы ва ўсіх класах у бок памяншэння. Разгледзім чацвёрты клас з рускай мовай навучання. Калі ў 1995 годзе было 4 гадзіны, то ўжо ў 1996 г. стала 3 гадзіны. Гэта столькі ж, як урокаў фізкультуры. У спецкласах, дзе вывучаюць замежную мову, вучні маюць 4 урокі замежнай мовы, прычым клас дзеліцца на тры падгрупы. Значыць, клас цалкам мае 12 гадзін замежнай мовы і толькі 3 урокі роднай. Трэба ўлічыць, што ўсе астатнія прадметы выкладаюцца па-руску. Якія ж у вучняў будуць веды?

Тое ж самае і ў сярэдняй школе. З 1996 года зменшылася колькасць гадзін для вывучэння роднай мовы у 5 класе да 4 гадзін у класе з беларускай мовай навучання і да 3 гадзін у класах з рускай мовай навучання. Гэта менш, чым рускай мовы і замежнай. У спецыялізаваных школах вучні маюць 6 урокаў замежнай мовы, і зноў жа класы дзеляцца на падгрупы.

У такіх абставінах школьнікі паспяваюць засвоіць беларускую мову толькі на ніжэйшым узроўні (рэпрадукцыйным) – могуць чытаць і ўспрымаць на слых беларускамоўную інфармацыю. Авалодаць жа навыкамі звязнага выказвання (прадукцыйны ўзровень) у вуснай і пісьмовай формах большасць школьнікаў не паспявае. Праз такі русіфікацыйны план праходзіць пераважная большасць беларускіх дзяцей.

Але і расейскай мовай, нягледзячы на вялікую колькасць патрачанага на яе вывучэнне часу, выпускнікі, як след, не валодаюць. Не апошнюю ролю тут адыгрывае стыхія іх роднай беларускай мовы. Расейская мова засвойваецца выключна ў сваім кніжным варыянце. А для таго, каб выхаваць адчуванне да мовы, авалодаць яе разнастайнымі моўна-выяўленчымі сродкамі, функцыянальна-дыферанцыяванымі стылямі, неабходна адчуваць народную мову, у тым ліку і рэгіянальную (мову сваёй малой радзімы. Расейскамоўныя беларусы не валодаюць адным з асноўных стыляў расейскай мовы – размоўна-гутарковым. Яны паслугоўваюцца той жа кніжнай мовай. Каб адгарадзіцца ад уплыву беларускай мовы, пэўная частка расейскамоўных беларусаў свядома не чытае беларускіх кніг і газет, пераходзіць на моўныя клішэ. Словам, штучна збядняе сваю мову.

Літаратурная мова ўвогуле, як і мова асобнага чалавека, развіваецца і ўзбагачаецца натуральна тады, калі яна зарыентавана на народную мову, сілкуецца ёю. Таму не выпадкова, што за некалькі стагоддзяў панавання расейскай школы, на Беларусі так і не вырас больш-менш вядомы расейскамоўны пісьменнік. Бо родная мова адпавядае нацыянальнаму характару чалавека, звязана з гісторыяй народа, яго культурай, прыродай краю, дзе жывуць яе носьбіты і творцы.

Многія беларусы сёння размаўляюць на трасянцы. І неяк язык не паварочваецца папракнуць іх. За што? За тое што ў дзяржаве не створаны ўмовы, каб кожны грамадзянін мог на падсвядомым кантролі свабодна валодаць роднай мовай? Родная мова павінна быць і рабочай мовай. Другой-трэцяй мовай чалавек звычайна валодае на свядомым кантролі і карыстаецца імі з нейкай нагоды. Інакш – трасянка, паўмоўе, што не можа не сказвацца на інтэлекце чалавека і ў цэлым нацыі. Бо мова – сродак фармавання і перадачы думкі.

Паўмоўе адмоўна ўплывае і на фармаванне нацыянальнага характару беларусаў. Бо чалавек звычайна ўсведамляе, што недасканала валодае мовай, і ў гутарцы з іншымі добраахвотна займае пасіўную пазіцыю, адводзіць сабе другасную ролю. А калі так, як у нас, беларусаў, цягам вось ужо некалькі стагоддзяў, то гэта рыса паводзін замацоўваецца і на генетычным узроўні. Вось і стаім мы ногі ў козлы, слухаем байкі пра славянскае адзінства.

Колькі ўжо сказана і напісана пра гуманізм і дэмакратызм савецкай, а цяпер ужо нібыта і сваёй, беларускай сістэмы адукацыі. Але ці гуманная тая сістэма, ці дэмакратычная, калі ў ёй няма месца нацыянальнай школе, калі нельга атрымаць адукацыю на роднай мове, калі яна не зарыентавана на нацыянальную культуру, не рыхтуе спажыўцоў і творцаў гэтай культуры?

Без сваёй беларускай школы мы, як нацыя, не маем будучыні. Бо толькі ў нацыянальнай па форме (мове) і змесце школе можна выхаваць новае пакаленне грамадзян, культурных, гуманных, з высокім пачуццём уласнай і нацыянальнай годнасці, любові да свайго народа і Радзімы, людзей творчых, ініцыятыўных. У расейскамоўнай школе дзеці растуць у атмасферы адчужанасці ад беларускасці. Там шмат фармалізму і хлусні. Хлусяць настаўнікі, хлусяць выкладчыкі вузаў, калі адказваюць на пытанні, чаму ў Беларусі няма беларускіх школ, няма нацыянальнага ўніверсітэта, а вось у суседзяў, у тых жа ўкраінцаў усё гэта ёсць? Чаму мы жывём горш, чым прыбалты? Чаму нельга чытаць апазіцыйную прэсу? Чаму нельга вітаць "Жыве Беларусь!", але можна насіць свастыку на рукаве, як гэта робяць малойчыкі з "Рускага нацыянальнага адзінства" – арганізацыі фашысцкага кшталту?

Цягам часу маладыя людзі пачынаюць разумець, што іх свядома адсякалі ад родных каранёў. Адбываецца балючая ломка стэрэатыпаў, рэзка мяняюцца маральна-этычныя нормы паводзін і светапоглядныя арыенціры. Пакрыўджаныя, абкрадзеныя, яны пачынаюць пратэставаць. Гэта іх, выхаваных у расейскамоўнай школе, потым збіваюць на вуліцах міліцыянты, кідаюць за краты. Яны пратэстуюць супраць русіфікацыі, з максімалізмам, уласцівым моладзі, не прымаюць нічога рускага. Не ўмеючы яшчэ добра размаўляць на роднай мове, яны грэбліва ставяцца да расейскай, выкідваюць у макулатуру падпісныя выданні класікаў рускай літаратуры, за якія яшчэ нядаўна аддавалі апошнія рублі са сваёй стыпендыі.

Не без падстаў на старонках газет з'яўляюцца матэрыялы пра русафобію. Яна сапраўды існуе і пашыраецца. Сёння "рускі", як некалі "немец" пачаў выклікаць насцярожанасць. Усё часцей чуваць абразлівае "маскаль", як у часы буржуазнай Польшчы "пшэк", як у гады вайны "фрыц", "шваб". А заўтра?.. **Ёсць толькі адзін спосаб спыніць русафобію – адмовіцца ад беларусафобіі.** Гэта на першы погляд здаецца, што ідзе збліжэнне двух народаў. На самой справе ўсё наадварот. Інтэграцыйныя захады беларуска-расейскіх вярхоў толькі надграваюць русафобію. Калі Расея не адмовіцца ад сваіх імперскіх прэтэнзій на Беларусь, то гэта можа прывесці да міжэтнічных канфліктаў. Нядаўна пачуў вось такое:

***— Тата , тата, чорт праз акно лезе ў хату!***

***—Цішэй, сынок, хай лезе, абы не маскаль.***

Расейскамоўная школа на Беларусі – гэта і ёсць тое акно. І калі не зачыніць яго, нас можа напаткаць трагедыя, якая не раз адбывалася на зямлі.

Ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк

# РОДНАЯ МОВА

## СЛОВА З ЧЫРВОНАГА КАСЦЁЛА



**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

Добры дзень, шаноўныя людзі!

Спакой Божы няхай будзе ў Вашых сем'ях і дамах!

Дазвольце звярнуцца да Вас, а хутчэй да Вашых сэрцаў і сумлення, са святарскім словам пра самое слова, пра мову нашу.

Прачытай спакойна, задумайся і паразважай, і толькі тады зрабі высновы. Будзь чалавекам мудрым і сумленным.

Дзякуючы дару мовы, якою Пан Бог адарыў кожны народ, і друкаванаму слову, якое вынайшлі людзі, адным з якіх з'яўляецца наш суайчыннік Ф.Скарына – беларускі першадрукар і асветнік, людзі карыстаюцца не толькі дарам мовы, але і пісьменнасцю. Дзякуючы мове маем паразуменні паміж людзьмі і радасць карыстання ёю сярод людзей як у адной дзяржаве, так і сярод усіх народаў, не толькі ва ўсіх сферах штодзённага жыцця, але і ў храмах. Слова Божае, даступнае для кожнага народа, калі яно гучыць на мове гэтага народа, у тым ліку ў Беларусі, заносячы Пану Богу малітвы на роднай мове, у час правядзення набажэнстваў, удзялення Сакрамантаў Хросту, Шлюбу, святых абрадаў, спеваў, пахаванняў.

Каталіцкі Касцёл, як і Праваслаўную Царкву, Галавой і Пастырам якіх з'яўляецца сам Езус Хрыстус, называем яшчэ Апостальскім. Бо толькі Апосталам і іх наступнікам, Езус Хрыстус пасля Свайго Хвалебнага Уваскрашэння даручыў місію прапаведвання Слова Божага – Евангелля: "Ідзіце па ўсім свеце і абвяшчайце Евангелле ўсялякаму стварэнню. Хто паверыць і ахрысціцца, збаўлены будзе; хто ж не паверыць, асуджаны будзе". (МК 16,15-16).

Слова "Catholicos" – азначае паўсюдны, каталіцкі, "вселенский" – для ўсяго свету, усіх пакаленняў. Рымская Імперыя, якая панавала ў час нараджэння і жыцця Езуса Хрыстуса, мела на шматлікіх землях і рэгіёнах адзіную дамінальную мову – лацінскую. Таму цэнтральную ролю прапаведвання Евангелля паміж народамі мела тады лацінская мова, якая была і дзяржаўнай, што спрыяла перадачы Слова Божага Апосталамі многім народам. Яскравы прыклад таму мы можам назіраць у гады існавання СССР: руская мова была абавязковаю ва ўсіх пятнаццаці рэспубліках Саюза і іншых краінах сацыялістычнага блоку. Так было ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе на ўсіх дзяржаўных узроўнях карысталіся беларускаю моваю, вяліся на беларускай мове дакументы, таму што быў прыняты Статут ( 1566г. – другая рэдакцыя), які абавязваў да гэтага. Сярэднявечча ў гісторыі Беларусі з поўнай падставай называюць "залатым векам", таму што ў гэты час не толькі выйшлі ў свет першыя друкаваныя кнігі Францішка Скарыны, цудоўная паэма "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага, "Катэхізіс" (1562), Сымона Буднага, "Евангелле" (1580) Васіля Цяпінскага, першыя вершы па-беларуску але і значныя поспехі былі дасягнуты ў розных галінах культуры і мастацтва, духоўнасці.

Беларуская мова ў XYI ст. і першай палове XYII ст. дасягнула вышэйшага ўзроўню свайго развіцця. У далейшым інтэлігенцыя, якая ўзрошчвала і клапацілася пра Беларусь і яе мову (напр. Дунін-Марцінкевіч), карысталася пераважна лацінкай. Развівалася грамадства, развівалася і граматыка. У другой палове XIX ст. лацінку пачала выцясняць "грамадзянка" (тая графіка, якая выкарыстоўвалася ў рускім кнігадрукаванні). " Народ выражае сябе найпаўней і найдасканалей у мове сваёй", — пісаў у XIX ст. вядомы рускі лeнгвіст І.Сразнеўскі. "Народ і мову нельга ўявіць адно без аднаго" падкрэсліваў ён.

На 1918 г. у Беларусі існавала пяць граматык найдасканалейшая з іх – "Беларуская граматыка для школ" Браніслава Тарашкевіча. "Граматыка" пабудаваная на матэрыяле жывой народнай гаворкі, паслядоўна вызначала граматычныя рысы беларускай мовы. Стала галоўным падручнікам ва ўсіх школах, на аснове якой узнікалі іншыя. 14 ліпеня 1924 г. распачынаецца поўная, так званая, беларусізацыя (усё павінна было быць на беларускай мове). Канстытуцыя 1927 г. аб'яўляе беларускую мову " пераважнай для зносін як дзяржаўных і прафесійных, так і грамадскіх устаноў і арганізацый". У 1933 г. быў выдадзены "Праект спрашчэння беларускага правапісу", які пасля зацвярджэння ўрадам стаў абавязковым да выканання і дзейнічае да нашых дзён.

Як бачым, беларуская мова мае ў стагоддзях глыбокія жыватворныя карані: і як дзяржаўная мова многіх народаў, і як духоўная мова ў храмах.

Адносіны да беларускай мовы з боку Касцёла былі ўва многіх выпадках вельмі салідныя і сур'ёзныя: гэтаму гістарычныя сведчанні і стаўленне да беларускай мовы Віленскага біскупа Роппа, Айцоў Мар'янаў у парафіі Друі, Віцебскай вобл., ксяндзоў Адама Станкевіча, Язэпа Германовіча, К.Стэповіча, А.Астрамовіча, А.Цікота, П. Пякарскага, В. Гандлеўскага і многіх іншых. Поўня беларускай мовы выражаецца і ў малітвах, песнях, напр., "Мы хочам Бога".

*..."Хай будзе Бог у сямейным коле,*

*У жыцці бацькоў, у дзіцячых снах.*

*Хай будзе Ён у кніжцы, у школе,*

*У адпачынку, у працы днях. ...*

*Мы хочам Бога ў нашым Краі,*

*Між беларускіх бедных стрэх.*

*У нашай мове і звычаях*

*Не можа мецi месца грэх..."*

XYI ст. – было "Залатым векам" для беларускай мовы, культуры, архітэктуры, жывапісу, які адлюстроўваўся гістарычнаю рысаю і памяццю. Нешта падобнае цяпер магло паўтарыцца на рубяжы 80-90 гадоў нашага стагоддзя, у час так званай перабудовы. Настаў – "Духоўны век" – Беларуская мова прызнана канстытуцыяй. Адраджаецца мова і ў якасці духоўнай і літургічнай у святынях – храмах Беларусі. І мы павінны разумна, з любоўю дакласці свае сілы і сваё стараннe, каб выкарыстаць кожную хвіліну, кожны добры момант у гэтай святой справе. Тут патрабуецца і наш удзел, унутранная духоўная перабудова кожнага з нас, наша жывая вера незалежна ад адукацыі ці веку, асабліва інтэлегенцыі. Без унутранай духоўнай перамены ў сабе нічога ўзнёслага не забудуеш, а таксама не прынясеш ніякай карысці і Бацькаўшчыне, у якой жывеш і якая чакае ад цябе сыноўскай любові і ўдзячнасці. Роднае Божае Слова ў Святынях глыбей узварушвае сэрца чалавека, адраджае дух любові дзяцей да бацькоў, узмацняе павагу да продкаў як простых, так і вялікіх, вучоных, да гісторыі свайго народа, пашану да старэйшых і ўладаў і што вельмі важнае – што ў Храмах у сэрцах людскіх нараджаюцца вера не толькі ў Пана Бога, але і ў свае духоўныя сілы, творчыя і цнатлівыя. Так, і толькі так нараджаецца сыноўская павага і святая адказнасць да Бацькаўшчыны і перад Бацькаўшчынай, продкамі, сумленнем, Богам. Зразумець гэта дапамагае вялікі Апостал народаў Павел: "Дык вера ад слухання, а слуханне ад Слова Божага". (Рым. 10,17). І вось на гэтым духоўным і маральна чыстым фундаменце веры можна смела працягваць і будаваць сваё жыццё, сям'ю, культуру, традыцыі, Бацькаўшчыну. Дух вечны, чалавек жа і ўсе фізічныя рэчы – часовыя. Толькі дух аб'ядноўвае і ўсё трымае, падобна як цэментная рошчына трымае цагліны, камяні высокага дома. Калі няма духу аб'яднання, які прыдае форму той ці іншай культуры народа, чалавека, цяжка гаварыць пра сам народ, як нацыю. Калі дом збудаваны без моцнай рошчыны, развaліцца, рассыплюцца камяні і пашкодзяць многіх, якія жылі ў доме. Так здараецца і сярод народаў, адны называюць часы Міхаіла Гарбачова "перабудовай – перестройкой", іншыя – "развалам". Апошняе вызначэнне больш правільнае, бо было вельмі мала сапраўднага аб'яднальнага духу, не было веры і шчырай любові як да ўніверсальнага агульначалавечага дома – Саюза, так і да свайго роднага кута, бацькоўскага дома.

Чалавецтва яшчэ не навучылася зразумець і не ў стане асэнсоўваць і прыняць такі памер, як УНІВЕРСУМ і АДЗІНКА.

Універсум і адзінка – гэта АЛЬФА і АМЕГА.

АДЗІНЫ і ПАЎСЮДНЫ і тут цяпер у гэтую хвіліну ў табе. Ці пад сілу табе гэта – чалавек? Ёсць такая прымаўка "Нельга усядзеть адразу на двух крэслах". Так як ты не зможаш адразу ўбачыць увесь небасхіл, а мусіш пакруціцца навакол, так і вялізарная Боская прысутнасьць у табе, што і не ўяўляеш, таму кажаш "толькі я", "я сам", "Бога няма". Так гаворыш, бо не можаш нават уявіць сабе прысутнасьць Бога, Яго веліч. Але ці ж гэта выключае Яго прысутнасць, ад таго што не разумееш? А ці назавеш Богам Васю, якога добра ведаеш? Ніколі. У сектах адбываецца інакш – замбіраванне і ўсе называюць свайго куміра – Богам. Але ў сектах чалавек, які вядзе іншых, не глядзіць угору на Бога, а ўніз на ўсіх і вось гэты правадыр стаіць панад усімі, бачыць усіх ніжэй за сябе. Ён – бог эгаізму, але яго валадарства яшчэ ніжэй, у вечным пекле, адкуль няма выйсця.

Ані Усход – Савецкі Саюз, які хацеў быць усюды і з усімі, але аказалася, што не з кожным, і з нікім. Прапагандавая ідэалогія, як аб'ядноўчая сіла не здала экзамен, не ўтрымала матэрыю – і Саюз распаўся.

Ані Захад – дзе з зіхаценнем матэрыялістычнага дабрабыту пануе бездань духоўнай беднасці, дзе "залаты цялец" стае цэнтрам увагі жыцця, ува ўсёй сваёй поўні эгаізму.

І якая розніца, ад чаго загінулі людзі:

Ці ад Вавілонскай вежы, якую людзі будавалі бязбожна, зневажалі Імя Божае, хацелі зноў быць роўнымі Богу. Вежа, зваліўшыся, засыпала – пахавала многіх пад сабой, а многа засталося пакалечанымі. Мы яшчэ доўга будзем адчуваць і цярпець наступствы развалу, падзення Саюзу, гэтай атэістычнай вежы, прапаганды бездухоўнасці, бязбожжа і ўсяго толькі матэрыялістычнага. А колькі згублена душ людскіх?! Кожны з нас, кожная сям'я, нашыя народы, як у фізічным, маральным, так і духоўным сэнсе патрабуюць яшчэ многа часу на залячэнне ранаў і вяртання – адраджэнне духоўнасці, пакутуючы за грахі бацькоў і братоў.

—Ці ад попелу, змешанага з разплаўленым золатам з "залатога цялца", якім Майсей загадаў паіць усіх, хто пакланяўся залатому ідалу, гэтыя сённяшнія войны, неспакой і залатая ліхаманка ўзбагачэння, якая можа загубіць цэлыя народы? Губляецца пашана чалавека да чалавека, за мэту жыцця па над усім, стaвіцца сёння разбагацець, мець як мага больш. І зразумела, бо калі няма веры ў Бога, калі чалавек душою не бачыць Бога, тады нен бачыць і бліжняга свайго. Але Боская справядлівасць ніколі не спазняецца, заўсёды прыходзіць у адпаведны час, калі на яе найменш спадзяюцца.

Паглядзіце, як кожная рэспубліка былога Саюза цяпер адраджае сваю мову, і гэта зразумела, гэта нармальны працэс вяртання да свайго. Вялікі атэістычны эксперымент не ўдаўся не толькі з нацыянальнымі мовамі, каб аб'яднаць іх у адну, але і з усім, што звязана з гігантаманіяй, казарменным, калектыўным жыццём і працаю. У чалавека, людзей, народаў, адвечна закладзены Богам своеасаблівасць, непаўтаральнасць.

Хачу тут ужыць тэрміны РАЗАМ і ПААСОБКУ.

Разам як народы, паасобку як нацыі.

Чалавек у калектыве, школе, працы, вёсцы, горадзе, нават у сям'і – разам, але як асоба самаісная, самавыстарчальная, як здароўем, адзеннем, здольнасцямі, так і характарам, сілаю, душой, жыццём – гэта Боскія дары, якія чалавек ніколі не здолее зламаць, перамяніць, зліць у адну масу ці знішчыць. Адзінкі людзей – так, можна зламаць, знішчыць, народ – ніколі, гэта сведчыць – гісторыя. Аб чым асабліва сведчаць апошнія 10 гадоў: "всё возвращается на круги своя". Мы бачым, як вяртаюцца родная мова, культура, гісторыя да сваіх народаў-дзяцей у кожнай рэспубліцы, і мы гэтаму сведкі. Выступаючы супраць гэтых адвечных законаў, чалавек – ты выступаў супраць спрадвечных, Богам закладзеных правоў – Законаў, Запаведзяў – гэта ўжо святатацтва і выступленне супраць Бога.

Ці гатовы ты, чалавек, зноў ужо сёння змагацца з Богам праз пасрэдніцтва людзей з Тым, Які быў, Які ёсць, Які надыходзіць, з Творцам Неба і Зямлі, усяго бачнага і нябачнага – Які і цябе стварыў? Ты – "Homo Sapiens". Зірні краем вока ў гісторыю на пакаленні і народы, дзе яны? Хто перамог – чалавек ці Пан Бог, і хто сёння перамагае. "Хто як Бог" – Арханёл Міхал – галоўны апякун нашай Беларусі, абаронца ад шатана. Святы Аўгусцін з болем душы выкрыкнуў аднойчы: "Неспакойная душа і дух мой, Божа, аж пакуль не спачне ў Табе, мой Пане!"

Цяпер ідзе час стаўлення кожнай з рэспублік былога СССР як асобнай дзяржавы. і калі ўсе ўсталююцца, тады зноў паўстае сімпатыя да суседзяў, іхняй мовы, культуры і г.д. – як роўны з роўным. Наваселле святкуецца некалькі дзён, а пасля наведваюць суседзяў, шукаюць з імі сталай прыязні і ўзаемадапамогі. Наваселле ў маладых дзяржавах праз некалькі гадоў пройдзе і распачнуцца салідныя суадносіны з усімі навакольнымі дзяржавамі. Возьмем напрыклад, Польшчу. Раней як інтэлігенцыя, так і моладзь не вельмі дабраахвотна вучылі рускую мову, пад прымусам, а цяпер многія маюць за гонар размаўляць парускy. "Мы – суседзі!" – кажуць. Перамагае дух – "Духоўны век".

*(Працяг у наст. нумары)*

